ПРАВІНЦЫЯ ЯК ЯНА ЁСЦЬ

# 2. «СЭЛФ СЭЙД МЭН» СІНЬКО М. В.

## як люстэрка зямельнай рэформы

За 74 з лішнім гады свайго існавання Савецкая ўлада пабудавала ў вёсцы Юзуфова Валожынскага раёна толькі водаправод. Дапамог «шчаслівы» выпадак. Пры пракладцы трасы Мінск — Вільнюс, трактарыст, які пакутаваў на пахмельны сіндром, засыпаў калодзеж. Прыйшлося праявіць клопат, што адзначалася ва ўсіх справаздачных дакладах гады два: «За справаздачны перыяд у вёсцы Юзуфова пабудаваны водаправод...». З якой нагоды — пра гэта, думаю, не ўпаміналася па палітычных матывах. На водаправод выдаткавалі 6,5 тысячы рублёў.

З дарогай да аўтамагістралі юзуфоўцам пашанцавала менш. Гэта ўсяго паўкіламетра, але іх можна пераадолець толькі пехатою. Звычайная тэхніка тут не праходзіць. Таму старыя кожны дзень і ў любое надвор'е выходзяць на дарогу і чакаюць «хлебавозку», бо ў вёску яна не заязджае. Там жа адбываецца гандаль хлебам. Дождж, снег, мароз, вецер, спякота, — стой і чакай.

Калі Мікалай Сінько ехаў адсюль паступаць у ваеннае вучылішча (1977 г.), тут было 11 двароў. Калі праз 14 гадоў вярнуўся — засталося 5. Жыццё ў Юзуфова паступова замірае. Яшчэ 10—20 гадоў прыкладна такога ж існавання — і на месцы вёскі будзе чыстае поле. Магчыма, там пасеюць збажыну, а мо і бульбу — як вырашыць старшыня. Рэдкія старажылы ўспомняць: а тут калісьці вёска была.

Мікалаю Сінько не хочацца, каб так здарылася. Ён жадае, каб жыццё кіпела, гучалі вясёлыя дзіцячыя галасы, добра раслі жыта і бульба, у садзе гулі пчолы і г. д. У яго мара — стаць уладальнікам навакольных зямель. Ён у нас — «сэлф сэйд мэн», па паняццях амерыканцаў — «чалавек, які зрабіў сябе сам», ёсць у іх такі надта папулярны выраз. Ну, Сінько, канешне, яшчэ не зусім «сэлф сэйд», але ўжо «мэн».

Аддаўшы належнае абароне Радзімы ў радах Савецкай Арміі, наш герой вырашыў, што некалькі дагматычны «модус вівендзі» (спосаб жыцця) арміі не зусім адпавядае яго характару. Заняўся камерцыяй. Стварыў кааператыў, быў дырэктарам маладзёжнага цэнтра, камерцыйным дырэктарам акцыянернага таварыства, намеснікам дырэктара дзяржаўна-кааператыўнага аб'яднання. Гэта ўсё было ў Расіі, а Сінько, нагадаю, беларус, у яго і прозвішча беларускае. Зусім заканамерна Мікалай апынуўся ў Маладзечне.

Зараз Сінько займаецца транспартнымі паслугамі. Справа выгадная, і другі б на яго месцы не тузаўся. Шчыра скажу: я ад такой справы не адмовіўся б. Напэўна, таму кожны і знаходзіцца на сваім месцы, а не наадварот: пад маім сузор'ем Казярога прадпрымальнікаў нараджаецца мала, зоркі не лгуць. Ну, а як усякі нармальны прадпрымальнік, Сінько жадае справы вялікай і перспектыўнай. Па-чалавечы, зразумела.

Жыхары вёскі яго падтрымалі. Ім таксама хочацца ў канцы зямнога шляху ўбачыць штосьці прыемнае. Тым больш, што першым крокам Сінько даў сабе зарок зрабіць дарогу да вёскі. З калгасам і сельсаветам Сінько дагаварыўся — там далі згоду. Тут нармальнае заканчваецца і пачынаецца салтыкоўскі «горад Глупаў».

Першы раз яму проста адмовілі. Другі — прапанавалі зямлю з рэзерву Бог ведае дзе. З цягам часу фармулёўкі станавіліся ўсё больш вытанчанымі: не член калгаса (хоць калгас, нагадаю, не супраць). Далей: месяц дакументы вытрымлівалі ў Валожынскім райвыканкоме, потым ляшчотна растлумачылі — не тыя. Перад маім прыездам калгас падаў заяўку на вывядзенне юзуфоўскіх зямель у запас (нават калгас дапамагае!). Калі мы з Мікалаем выпадкова пазнаёміліся, выканком павінен быў сказаць сваё канчатковае слова: даць 50 гектараў Сінько М. В., ці не даць. Слова было такое: намеснік старшыні камісіі па зямельнай рэформе т. Агапотаў міла паведаміў, што пытанне нават не было ўключана ў парадак дня. Больш таго, т. Агапотаў шчыра прызнаўся, што і не збіраўся яго ўключаць...

Крыху пазней я сустрэўся з начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі райвыканкома З Лужынскім. З Зігмундам Сільвестравічам мы мелі гутарку аб праблемах фермерскіх гаспадарак. Аказалася, што ў раёне ёсць 26 фермераў плюс 18 заяў. Больш за ўсіх—у калгасе «Чырвоны сцяг», якім кіруе выдатны дзеяч сельскай гаспадаркі і эканомікі С. Шарэцкі. «Ішоў да нас,— не без іроніі адзначае Лужынскі,— гаварыў: канцэнтрацыя, спецыялізацыя, узбуйненне. Зараз у яго іншыя размовы». 18 фермераў у «Чырвоным сцягу». Туды возяць замежнікаў, тыя хваляць: так і трэба. Праўда, звяртаюць на сябе ўвагу некаторыя моманты.

Скажам, усе «чырванасцяжныя» фермеры зямлю атрымалі ў асноўным у снежні—студзені мінулага года і гэтага. Інакш кажучы, перад і адразу пасля лібералізацыі цэн. У спісе — у асноўным «камандны» састаў: брыгадзір, начальнік участка, юрыст, намеснік старшыні, зноў начальнік участка, галоўны інжынер, дыспетчар. Астатнія — прыезджыя. Усе раптоўна палюбілі зямлю, што, вядома ж, добра. Не зусім толькі ясна, чаму мясцовых радавых калгаснікаў у спісе амаль і няма, адзін толькі малаказборшчык Кулакоў. Ён, дарэчы, разам з юрыстам Сазонам вырашыў заняцца авечкагадоўляй. Ім, праўда, мякка растлумачылі ў райвыканкоме, што гэтым лепш займацца ў гарыстай мясцовасці, але акт на валоданне зямлёй далі.

Зігмунд Сільвестравіч па-сялянску прама растлумачыў: страхуюцца. Гэта можна зразумець: час нестабільны, а зямля як-ніяк — капітал самы надзейны. Незразумела, чаму адным можна, а другім—не? Чаму намеснік Шарэцкага праблем не мае, а Сінько пачынае пяты круг пекла? Чаму катэгарычна адмаўляюць Сінько і ўпэўнены, што калгасны юрыст наладзіць прыкладную гаспадарку? Дзе логіка? Няма. І не будзе, не чакайце.

А чаму я думаю, што былы афіцэр будзе лепшым фермерам? — такое пытанне таксама правамернае. Даю адказ: таму, што Сінько на свае ўласныя грошы ўжо купіў трактар «Т-74», плугі, сеялкі, бароны, 2 цягачы, насенне. Таму, што, нават яшчэ не маючы зямлі, ён падлічыў страты і даходы, ведае, што пабудуе ў гэтым годзе, а што ў наступным, колькі чалавек у яго будзе працаваць і колькі ім плаціць. Ён ведае, што ў яго будзе сад, пасека, трусагадоўчая ферма, свінаферма, што на трасе ён паставіць кафэ, станцыю тэхабслугоўвання і г. д. У яго ўсё пралічана, у адрозненне ад «чырванасцяжных» прыхільнікаў авечкагадоўлі. У рэшце рэшт, нездарма ён прайшоў многія ступені прадпрымальніцтва, каб не ведаць, чаго хоча. Не ўлічана ў Мікалая Вікенцьевіча толькі адно—Савецкая ўлада.

Улада ведае, што, скажам, Шарэцкі з усімі яго навацыямі — чалавек зразумелы, свой, можна сказаць, з ім можна дагаварыцца і прадбачыць яго далейшыя крокі. Значыць, няхай сабе плодзіць «фермераў», якія на самай справе, канешне, не проста фермеры, а калгасная наменклатура часоў лібералізацыі. Гэта не страшна. А Сінько —не свой, непрадказальны. Дагаварыцца магчыма, пэўна, і з ім, але гэта ўсё хістка, ненадзейна. Заўтра ён стане «героем капіталістычнай працы», хутчэй за ўсё мільянерам, і навошта яму гэтая ўлада з яе ржавым механізмам размеркавання? Мне здаецца, сабака закапаны менавіта тут.

Сінько падняў мяне ў гасцінічным нумары а палове восьмай. Не вельмі разгублены ўчарашняй адмовай у выканкоме, пачаў дыктаваць некаторыя свае думкі наконт зямельнай рэформы.

Патрэбны радыкальныя меры, —рубіў энергічна паветра рукой.

Ах, Мікалай Вікенцьевіч, усё гэта вядома. І тым, хто справа, і тым, хто злева. Хутка вясна. Сеяць трэба, каб потым збіраць ураджай. Але нічога яшчэ няясна. Ясна толькі, што мы з'яўляемся сведкамі чарговай кампаніі пад назвай «зямельная рэформа».

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## Ёсць і такая партыя?

**— Ну жартаўнікі, ну гумарысты! — рагаталі прахожыя над хлопцамі (на выгляд — старшакласнікамі), якія ішлі па вуліцы пад чорным сцягам. З найбольшым здзіўленнем разглядалі таго, хто паверх паліто накінуў на плечы пунсовы піянерскі сцяг (на здымку ўнізе).**

**— Ніякія мы не гумарысты,— адбіваліся хлопцы,— мы — анархісты. Чулі? Ёсць такая партыя! Ідзём на мітынг, дзе збіраюцца ўсе новыя плыні.**

**Пазней мой сусед, які пабываў на тым мітынгу, казаў: бачыў там гэтых анархістаў. Выгналі іх рабочыя з мітынгу, маўляў, не кампраметуйце нас.**

**А вось гэты ўдзельнік мітынгу (на здымку ўверсе) сваім плакатам прымушаў прахожых спыніцца і задумацца. Кожны важыў: можа, і сапраўды быў такі запавет? Каб суняць сумненні, я раскрыў Біблію, знайшоў указанае месца. Але не зусім тое напісана ў свяшчэннай кнізе. Цытую:**

**23. Землю не должно продавать навсегда; ибо Моя земля; вы пришельцы у Меня. 24. По всей земле владения вашего дозволяйте выкуп земли».**

**Як бачыце, поўная цытата мае зусім іншы сэнс. Яна падае надзею ўсім будучым фермерам.**

**Не варта здзіўляцца: прапагандысцкі прыём зусім не новы ў нашай гісторыі. Было ў каго навучыцца. А вось надрукаваць гэтыя фотаздымкі ёсць сэнс — няхай чытачы ведаюць, што ёсць і такое.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

# Бухгалтэрыя культуры:

## ЗАКОН АБ ПАДАТКАХ ЗАКРЫВАЕ ВЫЙСЦЕ З ЖАБРАЦКАГА СТАНУ

**Шырокі рэзананс у грамадскасці рэспублікі выклікаў «бунт» творчых саюзаў, іх прамыя абвінавачанні ў адрас нашага парламента за абыякавыя адносіны да амаль што гамлетаўскага пытання: ці выжыве наша культура ў гэты смутны перадрыначны час? Матэрыяльная база культурнай сферы ў заняпадзе, выйсця з гэтага жабрацкага стану не бачыцца. Беларускі фонд культуры, напрыклад, як і іншыя творчыя саюзы, мог бы за кошт развіцця сваёй вытворчай дзейнасці знаходзіць сродкі і ўкладваць іх у культурныя праграмы, як ён гэта і робіць у сучасны момант. Але непераадольнай сцяной на шляху стаў нядаўна прыняты Закон аб падатках, у прыватнасці, яго палажэнне аб падатку на прыбыткі фондаўскіх прадпрыемстваў.**

**Старшыня праўлення Беларускага фонду культуры пісьменнік І. Г. ЧЫГРЫНАЎ з гэтай нагоды выказвае такія думкі:**

— Разваліць культуру не складана, а вось потым аднавіць яе ў хуткім часе наўрад ці можна. Тым больш, калі яе ўжо нішчылі дзесяцігоддзямі. Здавалася б, што прасцей — не перашкаджаць фонду ствараць уласную матэрыяльную базу, не стрымліваць нашу ініцыятыву ў гэтым накірунку.

**— Іван Гаўрылавіч, тады такое пытанне: з чаго ж складаюцца тыя прыбыткі, на якія «замахваецца» Закон, як фарміруецца бюджэт фонду?**

— Асноўныя крыніцы — добраахвотныя ўзносы, сродкі ад праводзімых дабрачынных мерапрыемстваў, а галоўнае, — ад дзвюх фондаўскіх фабрык— Бабруйскай галантарэйнай і Маладзечанскай мастацкіх вырабаў.

Дарэчы, мы знаходзімся на самафінансаванні, і датацый ад дзяржавы не атрымліваем.

**— І як жа, па якому прынцыпу гэтыя сродкі выкарыстоўваюцца?**

— У першую чаргу я назаву доўгатэрміновыя праграмы па адраджэнню і памнажэнню нашай нацыянальнай культурнай спадчыны. Фонд, напрыклад, стаяў ля вытокаў стварэння Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. На першыя крокі яго культурна-асветніцкай дзейнасці было выдаткавана 20 тысяч рублёў. Значныя сродкі выдзелены таксама на станаўленне Міжнароднай школы беларусістыкі, створанай пры Белдзяржуніверсітэце, заслаўскай суполцы ТБМ «Нашчадкі Рагнеды», на друкаванне «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак», на выданне Скарынаўскай Бібліі, газеты «Наша ніва»... Мы фінансава падтрымліваем беларускамоўныя дзіцячыя навучальныя ўстановы: садок № 376 «Заранка» г. Мінска, Беларускі музычны ліцэй, фондам устаноўлены дзве прэміі для здольнай моладзі— па 300 рублёў штомесяц кожная. Усяго ж пад праграму выканання Закона аб мовах на Беларусі фондам выдаткавана каля 200 тыс. рублёў.

Фонд выступіў адным са стваральнікаў Беларускага краязнаўчага таварыства, на станаўленне якога адразу ж было выдзелена 100 тысяч рублёў, не шкадуе сродкаў на правядзенне разнастайных мерапрыемстваў у гэтым накірунку.

Заўважу, што фонд аказаў фінансавую падтрымку Таварыству народных майстроў РБ, Асацыяцыі фалькларыстаў і этнографаў РБ, Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына».

З праграмы «Вяртанне» (размова ідзе аб вяртанні нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі) хачу адзначыць два накірункі. Пад эгідай ЮНЕСКО ў рамках славянскага праекта ажыццяўляецца міжнародная праграма з удзелам БФК «Гісторыя кніжнай культуры Падляшша». Вынікі рэалізацыі праграмы (ужо выдаткавана 20 тысяч рублёў) знойдуць адлюстраванне ў арыгінальным сямітомным выданні энцыклапедычнага тыпу. Распачынаем таксама падрыхтоўку каталога бібліятэкі Сімяона Полацкага, вывучэнне і перавыданне навуковай спадчыны мастацтвазнаўцы Міхася Шчакаціхіна.

**— Адзін з накірункаў дзейнасці фонду — захаванне і ўшанаванне памяці тых, хто ствараў нацыянальную культуру, чые імёны дайшлі да нас праз стагоддзі...**

— На ўзвядзенне новых і рэстаўрацыю даўнейшых помнікаў культуры на рахунак фонду паступаюць шматлікія ахвяраванні і выдаткоўваюцца заробленыя намі грошы. Назаву такую агульную лічбу: 200 тысяч рублёў, у тым ліку і ахвяраваных прадпрыемствамі, арганізацыямі і грамадзянамі, будзе выдаткавана фондам на будаўніцтва помнікаў Ф. Скарыну, С. Полацкаму, К. Каліноўскаму, В. Вашчылу, мемарыяла «Буйніцкае поле», помніка ахвярам сталінізму.

Сюды трэба яшчэ дадаць сродкі, якія былі выдаткаваны на аднаўленне сядзібы Я. Коласа ў Альбуці, на ўстанаўленне мемарыяльных дошак з барэльефамі М. Багдановіча, упарадкаванне магілы яго маці ў Гродна, на стварэнне скульптуры Язэпа Драздовіча, падрыхтоўку фільма-оперы «Францыск Скарына», дакументальнага фільма пра спевака М. Забэйду-Суміцкага, фільма «Дрэва жыцця» — пра лёс Веткаўскага музея народнай творчасці, на аднаўленне храма-помніка ў в. Мураванка Гродзенскай вобласці і іншае — зноў каля 200 тысяч рублёў.

Хацелася б сказаць пра нашу культурную садружнасць з хлебаробамі калгаса «Чырвоны сцяг» Валожынскага раёна. У калгасе задумалі адкрыць школу мастацтва з чатырма аддзяленнямі: музыкі, харэаграфіі, выяўленчага і прыкладнога мастацтва. З усёй аселіцы наведваюць яе 250 вучняў. У школе — добрае абсталяванне. А вось памяшканне, як кажуць, не зусім. Вырашана пабудаваць новае. Фонд, пазычыўшы гаспадарцы 200 тысяч рублёў, дапамагае калгасу хутчэй здзейсніць задуманае.

Значныя сродкі выдаткоўваюцца на чарнобыльскую праграму. Трэба сказаць, што вялікую іх долю мы зарабляем у валюце на праводзімых за мяжой дабрачынных аўкцыёнах.

А ўсяго з фондаўскай скарбонкі за гэтыя гады было выдаткавана на культурныя праграмы каля двух з паловаю мільёнаў рублёў. Многа гэта ці мала? Адказ адназначны — трэба старацца, каб было болей.

Дык навошта ж шаноўным парламентарыям «перакрываць» нам кісларод?

**Аркадзь АФАНАСЬЕЎ.**

## Быў калгас, а стаў...

Пакуль у вярхах ламаюць коп'і наконт рэарганізацыі калгасаў і саўгасаў, жыццё расстаўляе кропкі над «і». Напрыклад, у калгасе «Зара камунізму» Барысаўскага раёна на ўласным вопыце пераканаліся ў «выгадах», якія можа даць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі. Страта толькі ад малочнатаварных ферм склала ў мінулым годзе 474 тысячы рублёў.

Адзінай крыніцай даходу для многіх гаспадарак таму становяцца падсобныя промыслы. У той жа «Зары камунізму» выручае цэх па вырабу алейнай фарбы і поліэтыленавай плёнкі, які прыносіць штогод у калгасную касу да мільёна рублёў. Зразумела, што рэарганізацыя гаспадаркі можа стаць натуральным вынікам гэтага працэсу. Зрэшты, такая пастаноўка справы характэрна не толькі для «Зары камунізму».

**Святлана КАЛІНКІНА,**
**кар. БЕЛТА.**

Барысаў.

# Сыны Беларусі— героі Балгарыі

**3-га сакавіка 1878 года вялікая дата ў жыцці балгарскага народа. У гэты дзень у мястэчку Сан-Стэфана ля Канстанцінопаля (Стамбул) быў падпісаны мірны дагавор паміж Расіяй і Турцыяй, паводле якога Балгарыя была аб'яўлена самастойнай дзяржавай. Тым самым завяршылася шматвяковая барацьба балгарскага народа за вызваленне ад турэцкага рабства. У гэтай барацьбе прымалі ўдзел і беларусы, што дае нам права адзначаць гэты дзень супольна з балгарамі.**

Разам з «лагерам сацыялізму» адышлі ў нябыт і прапагандысцкія штампы, што мацавалі гэты лагер. Дык што тады засталося ў адносінах паміж нашымі народамі, чым варта даражыць і ганарыцца? Засталося шмат чаго. І справа гонару незалежных Беларусі і Балгарыі аб'ектыўна ацаніць тое, што іх звязвала ў мінулым і можа быць карысным у будучым.

Перш за ўсё варта па-новаму глянуць на гістарычныя факты, звязаныя з вызваленнем Балгарыі ад турэцкага ярма. Шырока распаўсюджаны міф аб «матухне» Расіі — абаронцы ўсіх «пакрыўджаных» славян— добра паслужыў былой імперыі і яе духоўнаму нашчадку СССР для дасягнення імперыялістычных мэт. І расійска-турэцкая вайна тут не была выключэннем. Расійская імперыя, якая душыла свабоду і адмаўляла ў праве на самастойнае жыццё падуладным ёй славянам (украінцам, беларусам, палякам), на міжнароднай арэне імкнулася паказаць сябе вызваліцелькай паўднёвых славян ад туркаў, маючы на мэце перш за ўсё «нагою цвёрдай стаць» на берагах праліваў. І хаця запаветная мэта не была дасягнута, міф застаўся і працягваў жыць самастойным жыццём. Аднак няма ніякага сумнення, што змаганне за вызваленне Балгарыі, незалежна ад мэт, якія ставіліся пры гэтым, было высакароднай справай, што прыцягнула да сябе шмат шчырых сэрцаў. Сярод іх было нямала выхадцаў з Беларусі.

Перш за ўсё трэба ўспомніць легендарнага магілёўчаніна Міколу Судзілоўскага, што быў вядомы на Балканах як «доктар Русель» і сябар героя балгарскай вызваленчай барацьбы Хрыста Боцева. Маладым медыкам ён добраахвотна пайшоў на фронт і быў адзначаны медалём. Шырока вядома ў Балгарыі імя генерала Іосіфа Гурка, вядучай фігуры на працягу ўсёй расійска-турэцкай кампаніі. Пад яго камандаваннем была вызвалена старажытная сталіца Балгарыі Тырнава, захоплены славуты перавал Шыпка, акружана варожая крэпасць Плеўна (суч. Плевен), выгнаны туркі з Сафіі і Адрыянопаля. Але мала хто ў Балгарыі, ды і ў нас, ведае, што ўраджэнец Віцебскай губерні Іосіф Гурка паходзіў са старажытнага беларускага роду Рамейкаў-Гуркаў.

Сваю лепту ў вызваленне Балгарыі ўнеслі і простыя беларускія людзі, што трапілі на вайну не заўсёды па сваёй ахвоце. У Плевенскім ваенна-гістарычным музеі, як сведчыць вядомы даследчык гісторыі балгарска-беларускіх сувязей Д.Мельцар, сабраны матэрыялы пра беларускага селяніна В. Засеку, які ў баі за Плеўну замяніў забітага афіцэра і паспяхова завяршыў атаку, за што быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам. У баях за Шыпку праславіўся Канстанцін Хрушчкі, які нарадзіўся ў 1855 г. у былым Слонімскім павеце Гродзенскай губерні. Юнаком ён быў прызваны ў войска, гераічна абараняў перавал у самыя цяжкія дні, разам з балгарскімі апалчэнцамі хадзіў у разведку, быў паранены, але не пакінуў поле бою. Узнагароджаны двума Георгіеўскімі крыжамі. Ён здзейсніў і яшчэ адзін жыццёвы подзвіг, пражыўшы 114 год. А колькі яшчэ беларусаў — салдат і афіцэраў Мінскага і Магілёўскага пяхотных, Беларускага і Гродзенскага уланскіх палкоў пралілі сваю кроў ці склалі галовы на палях і гарах Балгарыі! І зусім не выпадкова якраз у Мінску на Вайсковых могілках у 1898 годзе быў узведзены храм-помнік, дзе на гранітных дошках выбіты залатымі літарамі імёны ста васемнаццаці салдат і афіцэраў, загінуўшых у баях за вызваленне Балгарыі. А побач у дзвюх брацкіх магілах пахаваны героі Шыпкі і Плеўны.

**Таварыства «БЕЛАРУСЬ — БАЛГАРЫЯ» запрашае ўсіх сваіх прыхільнікаў ушанаваць памяць землякоў, што змагаліся за свабоду Балгарыі, і прыйсці 3-га сакавіка да храма-помніка на Вайсковых могілках, дзе а 11 гадзіне адбудзецца ўрачыстае богаслужэнне.**

**Генадзь ЦЫХУН,**
**старшыня Рады таварыства «Беларусь — Балгарыя».**

*Віктар ЧЫКІН:*

# «РАБОЧЫЯ—ГЭТА АДЗІНЫ КЛАС, ЯКІ МОЖА НАС ВЫВЕСЦІ З КРЫЗІСУ»

**Становішча, якое склалася ў апошні час у нашай рэспубліцы і ў іншых рэспубліках былога Саюза, вельмі складанае, і цяжка прадугледзець, што нас усіх чакае заўтра. Але палітыкі і дзеячы розных партый, плыняў і рухаў спрабуюць рабіць аналізы і выказваюць свае меркаванні наконт таго, як нам быць далей. Камуністычная партыя не так даўно кіравала ўсім і накіроўвала ўсе сферы нашага жыцця. Зараз прыхільнікі камуністычнай ідэі ў рэспубліцы гуртуюцца ў абноўленай Партыі камуністаў Беларусі. Каб даведацца, у чым яны бачаць выйсце з той крызіснай сітуацыі, у якой апынулася краіна, наш карэспандэнт гутарыць з сустаршынёй выканаўчага камітэта Партыі камуністаў Беларусі В. ЧЫКІНЫМ.**

**— Крыху больш як паўгода назад вы, Віктар Валянцінавіч, былі другім сакратаром сталічнага гаркома кампартыі. Зараз вы—рэдактар газеты «Мы и время» і сустаршыня палітычнага выканкома абноўленай Партыі камуністаў Беларусі. Як змянілася ваша жыццё?**

— Кардынальна. Быў сакратаром, стаў рэдактарам. Рэзка змянілася і кола сяброў. Нехта баіцца мець зносіны з адыёзным камуністычным лідэрам, а нейкая частка знаёмых зарыентавалася на маючага ўладу сакратара гаркома. Колькасць сяброў і знаёмых сярод былых работнікаў партапарату пайшла да нуля. Затое з'явіліся новыя. Сярод іх прадстаўлены ўсе катэгорыі насельніцтва. Можна меркаваць па тых, хто перарэгістраваўся ў новую партыю. Больш за 50 працэнтаў сярод іх— інтэлігенты. Ёсць журналісты, вучоныя. На адным з першых месц па працэнту перарэгістраваных работнікі кінастудыі «Беларусьфільм». Кожны дзесяты з іх былой партарганізацыі зарэгістраваўся ў абноўленай партыі, якая цяпер у стадыі станаўлення.

**— Значыць, жыве камуністычная ідэя?**

— Камуністычная ідэя жыве ва ўсім свеце. Чалавецтва яшчэ не прыдумала нічога лепшага. Камуністычныя ідэі і ідэі хрысціянства растуць з аднаго кораня. Нават у найбольш развітых капіталістычных краінах з'яўляюцца элементы камуністычнага характару. Як, напрыклад, элементы планавай эканомікі. Дзесяць мільёнаў амерыканцаў заняты на прадпрыемствах, якімі кіруюць працоўныя калектывы. У Іспаніі такіх прадпрыемстваў мноства. Інакш кажучы, хочам мы таго ці не, цывілізацыя ўсё роўна прыйдзе да сацыялізму.

**— Вы згодны, што зараз наша грамадства ўступіла ў перыяд сапраўднай дэмакратыі?**

— Наконт сапраўднай дэмакратыі занадта моцна сказана. На мой погляд, ніякай дэмакратыі няма наогул. Сам факт забароны кампартыі і экспрапрыяцыі яе ўласнасці гаворыць пра тое, што «дэмакраты» не маюць права так называцца. Што такое дэмакратыя? Улада народа. Для мяне народ—працоўныя. Для маіх апанентаў з буржуазных партый народ — прадпрымальнікі, кааператары, адмыўшыя свае грошы мафіёзі. Улада ў іх. А гэта ўсяго пяць працэнтаў насельніцтва. Усе законы прымаюцца ў іх інтарэсах. Сапраўдная дэмакратыя — гэта дэмакратыя для працоўных. Для гэтага працоўныя павінны мець сваіх прадстаўнікоў у органах улады. А ў нас рабочыя ў Саветах — выключэнне. Таму наша партыя — за новы закон аб выбарах, якія трэба праводзіць не толькі па тэрытарыяльных акругах, але і па вытворчых.

Трэба даць працоўным не толькі палітычную, але і эканамічную ўладу. Усе рухі, якія зараджаліся ў гады перабудовы, пачыналіся з вельмі правільнага тэзіса, што рабочы ў нас не гаспадар на вытворчасці. І ўсе рухі абяцалі гэта выправіць. Атрымалася: рабочага вызвалілі ад улады маскоўскага бюракрата, а ён тут жа трапіў пад уладу рэспубліканскага. Яго вызвалілі ад права на працу, ад упэўненасці ў заўтрашнім дні і ад іншых правоў, якія былі ім заваяваны ў семнаццатым годзе. Гаспадаром на прадпрыемстве ён не стаў. Некаторыя спадзяюцца на акцыі, прыватызацыю. Але працэс ідзе ў іншы бок. Рэальнымі гаспадарамі могуць стаць літаральна лічаныя працэнты насельніцтва. Я ўпэўнены, што трэба займацца не прыватызацыяй, а раздзяржаўленнем, вызваленнем прадпрыемстваў ад улады бюракратаў усіх узроўняў. Неабходна перадаць прадпрыемствы ва ўласнасць працоўных калектываў, і зрабіць гэта бясплатна. Самае галоўнае — зрабіць працоўныя калектывы ўладальнікамі створанага іх рукамі прадукту. І няхай яны выступаюць на рынку ў якасці свабодных таваравытворцаў. Толькі калі мы дадзім працоўным эканамічную і палітычную ўладу, настане эра сапраўднай дэмакратыі. Рабочыя — гэта адзіны клас, які можа нас вывесці з крызісу. Але, калі ён не вырашыць сялянскай праблемы, то сам памрэ ад голаду. За інтэлігенцыяй — задачы навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Рабочы клас — самы прагрэсіўны. Але свае праблемы ён можа вырашыць пасля таго, як вырашыць праблемы ўсіх астатніх класаў. Таму што ўсе астатнія заняты вырашэннем толькі сваіх уласных праблем.

**— Як вы ацэньваеце ўрад нашай рэспублікі і яе Вярхоўны Савет?**

— Ацэнка хутчэй негатыўная, чым пазітыўная. Але, калі параўноўваць з тым, што робіцца ў Расіі, то ў нас лепш. Да перабудовы прыйшлі з рознымі вынікамі. У Беларусі быў больш запас трываласці. Рэспубліка забяспечвала сябе прадуктамі харчавання. Мела дастойную сучасную прамысловасць. Парадку ў нас было больш. А не падабаецца мне ў дзейнасці ўрада тое, што ў яго няма ўласнай палітыкі. Мы ідзём у хвасце ў Ельцына, таму і вынікі тыя ж, толькі прыходзяць пазней. Разумныя людзі вучацца на чужых памылках, а мы —на ўласных. Для мяне зразумела, што курс, які ўзяў Ельцын,—тупіковы. І праз шэсць месяцаў лепш не будзе, будзе горш. Надзеі на лібералізацыю і прыватызацыю не маюць пад сабой глебы. Лібералізацыя ва ўмовах звышманапалізму і дыктату вытворцы над спажыўцом прывядзе толькі да скарачэння вытворчасці. А наш урад пакуль што не прапанаваў нічога свайго.

**— Што вы знаходзіце станоўчага ў ідэях і прапановах парламенцкай апазіцыі БНФ?**

— Ідэі апазіцыі зводзяцца да таго, каб узвесці вакол рэспублікі Кітайскую сцяну і адгарадзіцца ад іншых дзяржаў былога Саюза. Такое могуць прапаноўваць толькі непапраўныя рамантыкі нацыянальнай ідэі. Вынікі такой ідэі добра бачны на прыкладзе Эстоніі, якая найбольш паслядоўна праводзіла гэту лінію. Зараз там белага хлеба няма наогул, а чорнага—па 100 грамаў у дзень. Гэта ідэя—крайнасць.

**— Парламенцкая апазіцыя БНФ настойліва прапануе правесці рэферэндум і вызначыць адносіны народа Рэспублікі Беларусь да свайго ўрада, да Вярхоўнага Савета. Вы за рэферэндум?**

— Сама ідэя прыцягнення грамадзян да вырашэння важных праблем — правільная. Рэферэндумы трэба праводзіць часцей. Але, лічу, на гэты рэферэндум нашы палітычныя апаненты выносяць не самае актуальнае пытанне. Урад ўсё роўна пойдзе ў адстаўку пасля прыняцця новай Канстытуцыі. Было б важней і актуальней вынесці на рэферэндум пытанне не пра новую Канстытуцыю: згодны людзі Беларусі з ёй ці не. Справа ў тым, што калі Канстытуцыя будзе прынята ў тым выглядзе, як яе падрыхтаваў Вярхоўны Савет, то ў рэспубліцы зменіцца сацыяльны лад. Вось наконт гэтага параіцца з народам трэба было б. Рэферэндум такога характару мы гатовы падтрымаць.

**— Якія мэты ў Партыі камуністаў Беларусі?**

— Звычайна партыя ствараецца для заваёвы ўлады. І наша будзе змагацца за месцы ў Вярхоўным Савеце. Але гэта не самамэта. Задача наша ў тым, каб дапамагчы працоўным заваяваць палітычную і эканамічную ўладу. У нас няма намеру некага сілком заганяць у сацыялістычны рай, як і не жадаем, каб нас гналі ў капіталістычны. Мы выступаем за змешаную эканоміку. Мы катэгарычна супраць пасрэдніцкіх кантор, кааператываў і прадпрымальнікаў. Лічым, што толькі вытворца мае права на існаванне. Але кааператары і прадпрымальнікі будуць абараняць сваю ўласнасць. Няхай суіснуюць два сектары. Аснову сацыялістычнага складзе наяўная дзяржаўная ўласнасць, капіталістычны ж будзе развівацца на ўласнай аснове.

**— Ваша партыя падтрымлівае сувязі з іншымі рухамі і партыямі за межамі рэспублікі?**

— У нас добрыя сувязі з Расійскай камуністычнай рабочай партыяй. Я быў у іх на з'ездзе. Мы гатовы супрацоўнічаць з усімі партыямі левага толку. А ў такім пытанні, як экалогія, мы будзем супрацоўнічаць з усімі партыямі, нават з левым флангам Беларускага народнага фронта.

**— У апошні час у друку з'явіліся матэрыялы, якія кампраметуюць вас...**

— Кампраметуючая мяне інфармацыя пачала з'яўляцца са жніўня мінулага года. Пры існуючай прававаой абароне гэта практычна непазбежна. Кожны, хто будзе вылучацца з нашага фланга, будзе падвяргацца жорсткаму цкаванню з боку «дэмакратычнай» прэсы. Я шмат чаго даведаўся пра сябе. Даведаўся, што мяхамі выносіў грошы з гадзіннікавага завода, ездзіў за мяжу за дзяржаўны кошт, але забыліся дадаць, што я там быў у камандзіроўцы як дэпутат і працаваў. Даведаўся, што быў у выцвярэзніку. Даведаўся і пра сваю газету: Беларускае радыё паведаміла, што тры спонсары пералічылі грошы на яе рахунак. А паколькі наша газета каштуе менш, чым пачак запалак, то мы вельмі ўзрадаваліся. Але да гэтага часу абяцаных грошай няма. Такія выдумкі звычайна з'яўляюцца напярэдадні важных падзей у жыцці левых сіл. У нас намячаўся партз'езд. І гэта была спроба паўплываць на размеркаванне кадраў унутры партыі. Не вельмі высакародна. Мы спрабавалі адказаць праз наш друк. Але тыраж нашых газет не ідзе ні ў якое параўнанне з іншымі сродкамі, а тым больш з аўдыторыяй радыё. Таму мы выбралі іншы метад — падалі судовыя іскі. Акрамя таго, мы паабяцалі, што ў бліжэйшы час дадзім сенсацыйныя матэрыялы пра некаторых нашых дэмакратаў. Магчыма, такая мера прымусіць узброіцца жыццёвым прынцыпам ката Леапольда: «Давайце жыць дружна!» Нашы публікацыі будуць, у адрозненне ад іхніх, аб'ектыўнымі і праўдзівымі. Наогул, былое кіраўніцтва кампартыі ў чым толькі ні абвінавачвалі. Але яно лічыла ніжэй сваёй годнасці апраўдвацца ці выступаць. Я прытрымліваюся прынцыпу Майсея: «Вока за вока, зуб за зуб»!

**— Вашы чытачы толькі жыхары Беларусі?**

— У асноўным. Але чытаюць «Мы и время» і ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, тысячу экземпляраў бярэ Магнітагорск.

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

## А НАС?

**У невялікім пасляслоўі да гэтага інтэрв'ю хочацца нагадаць падзеі, якія адбыліся амаль год назад. Памятаеце першае, а таму, напэўна, самае нечаканае павышэнне цэн у красавіку мінулага года! Тады адбылося самае масавае, відаць, аж з 17-га года выступленне рабочых. Дзе была сіла, што ўзнікла як дыктатура пралетарыяту, партыя рабочага класа! Правільна, у большасці сваёй у кабінетах. Даволі ўтульных.**

**Цяпер кабінетаў не стала. І зноў, як дзесяцігоддзі назад, гучаць заклікі да пралетарыяў, якім па-ранейшаму губляць няма чаго — не нажылі. Так і застануцца вечным класам, пры дапамозе якога прыходзяць да ўлады! І калі сапраўды «рабочыя — гэта адзіны клас, які можа нас вывесці з крызісу», як сцвярджае Віктар Валянцінавіч, то ўзнікае правамернае пытанне: а нас! Тых, якія не левыя, не правыя, а проста змардаваныя бясконцымі ўнутранымі войнамі, і каб абавязкова «вока за вока»! Ці не прывядзе гэта да таго, што занадта многа стане ў нас аднавокіх! Здаецца, такое ўжо было...**

